**Інфармацыйна-культурны бюлетэнь**




**Выпуск 15 лістапад-снежань' 00**

## У нумары:



**Да канца навучальнага году засталося 22 тыдні**



*Сачы за рукой: там раздаюць "ЛІЦЭЙ плюс"*

**Шаноўныя нашыя ліцэісты, гімназісты і шкаляры Гародні!**

**Віншуем Вас са шматлікімі святамі!**

**Жадаем, каб у новым стагоддзі Вас не прыціснула цяжарам ведаў, каб Вы не зламалі зубы аб граніт навукі, і каб яблыка Ньютона не прабіла Ваш дах. Спадзяемся, што хоць на зімовых канікулах Вам не сняцца квадраты гіпатэнузы, сцеараты калія, паралельныя праваднікі і гальванометры.**

**А па вяртанні з вакацыяў - чытайце ЛІЦЭЙ плюс, газэту, без якой у школе сумна.**

**Разам ператворым усе мінусы ў плюсы.**

*Паміж намі, школамі...*



*Ліцэй - месца, дзе настаўнікі патрабуюць ад вучня ведаў па ўсіх прадметах, у той час як самі ведаюць толькі па адным*

*(з насценгазэты)*

# Ліцэісты пладзяцца штогод

**Ліцэйскае брацтва папоўнілася на 205 чалавек. 9 снежня ў ліцэі №1 адбылося традыцыйнае прысвячэнне ў ліцэісты.**

На працягу тыдня ліцэй рыхтаваўся да адной з самых важных падзеяў у жыцці кожнага ліцэіста. Штодзень на ліцэйскай сцэне праходзіла прэзентацыя дзесятых класаў. Найбольш удала выступілі эканамісты, палітэхі, філолагі і хімікі-біёлагі. Асабліва на "ура" публіка ўспрыняла нумар "крадзеж настаўніцы хіміі" з удзелам 10 "х/б-2". Педагогі пацвердзілі, што ў ліцэе ўсе ж такі адбываюцца паранармальныя з'явы. А 10 "п/т" (палітэхнікі), папярэдне ўзламаўшы базу дадзеных ліцэя, прадставілі факты пра існаванне ў ліцэі падпольнай арганізацыі настаўнікаў. Патупіўшы зубы аб граніт навукі, дзесятыя класы сабралі сваю невялікую каманду для таго, каб паспаборнічаць з адзінаццацікласнікамі ў інтэлектуальнай гульне "Брэйн-рынг".




І вось прыйшоў доўгачаканы дзень 9 снежня. Новаспечаныя ліцэісты агучылі клятву, атрымалі "білеты ліцэіста", паціснулі руку дырэктару. Пасля адбыўся святочны канцэрт, удзел у якім прымалі не толькі вучні ліцэя, але і госці з Гарадзенскага дзяржаўнага аграрнага універсітэта, вучылішча мастацтваў, а таксама і выпускнікі ліцэя. Скончылася мерапрыемства дыскатэкай.

**Марыя КВЯТКО**

# Збіраем грошы для рыбак!

Ліцэісты, дапамажыце хромісам-прыгажунам! У экалагічным кабінеце ажно тры вялізных акварыюма з рыбкамі, якія ну проста не могуць жыць без розных там раслінкаў. Спрабавалі ўпрыгожваць акварыюмы жывымі водарасцямі, толькі хромісы іх з'елі. Таму неабходна набыць штучную зеляніну.

А яшчэ экалагічны кабінет не адмовіўся б ад гаршчкоў пад кветкі. Бо ў пакоі 16 відаў раслінак, некаторыя з якіх месяцца, мягка кажучы, у кухонным посудзе.

Кабінет даглядае Жук Наталля Мікалаеўна, таму, калі маеце нейкія прапановы, ці проста хочаце паглядзець на рыбак і папугаеў, прыходзьце проста да яе.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

## Ангельцам у нас спадабалася

**14 СШ №**

**У кастрычніку ў СШ№14 прыязджалі вучні з ангельскага гораду Гарвіча.**

У Гародні яны жылі ў настаўнікаў ангельскай мовы. Але гэта не азначае, што яны рассяліліся па хатах і сядзелі там два тыдні. Не! У іх была вельмі насычаная праграма - ангельцы раз'язджалі па нашым горадзе, Менску і Белавежскай пушчы. Таксама быў святочны прыём у мэра Пашкевіча.

## "5" - не самая добрая адзнака

**У СШ№14 увялі дзесяцібальную сістэму адзнакаў.**

Напачатку ў ёй не маглі разабрацца не толькі вучні, але і настаўнікі. Мяркуйце самі:

"10" - вельмі выдатна (ці 5+)
"9" - выдатна (5)
"8" - амаль выдатна (5-)
"7" - вельмі добра (4+)
"6" - добра (4)
"5" - амаль добра (4-)
"4" - вельмі здавальняюча (3+)
"3" - здавальняюча (3)
"2-1" - амаль здавальняюча (3-)
"0" - незадавальняюча (2)

Тут і заблытацца можна. Але ёсць і станоўчы момант: бацькоў таксама можна заблытаць. У сістэме адзнакаў зараз ажно тры чацвёркі і тры пяцёркі.

**Сяржук ХАРЫТОНАЎ**

*спорт*

## Калі не школа, дык завод

У ліцэі з'явіліся новыя валейбольныя стойкі. Гэта - падарунак завода агрэгатаў, чыя каманда па вечарох у спартовых трусах ганяе мячык па залі. Прэзэнт асабліва радуе хаця б таму, што ўжо два гады ліцэй не купляў аніякага спартовага інвентару.

## Ліцэісты пайшлі канём

Ліцэісты зноў паказалі сябе самымі разумнымі. У гарадскіх спаборах па шахматах яны - першыя. Стаць лепшымі ў шашках не дала СШ№36, але і другое месца - падстава для гонару.

**Пятро СПАРТАНЮК**

## Імпульс замест кветак

**26 СШ №**

У навучэнцаў СШ№26 з'явілася свая газэтка "Імпульс". Яна стала добрым падарункам не толькі для вучняў, але і для настаўнікаў. Апошнія атрымалі выданне на Дзень настаўніка ў якасці падарунка.

## Усю ўладу - вучням

**У СШ№26 уладу ў свае рукі захапілі школяры. Цэлы дзень яны кіравалі школай і выконвалі абавязкі адміністрацыі і настаўнікаў.**

Кожны вучань хоць раз у жыцці хацеў пабыць настаўнікам, хоць на імгненне. Пэўна, не аднойчы у сваіх думках мы марылі аб тым, як мы, паважаныя настаўнікі, выклікаем вучня да дошкі, задаем цяжкія пытанні, прымушаем вучыць вялізныя тэарэмы ці з вялікімі вачыма, страшэнным голасам крычым: "Двойка табе за невыкананае хатняе заданне"! І вучнямі былі не хто іншыя, як нашыя настаўнікі. Але мары, мары... А вось у нашай 26-й школе гэтая мара спраўдзілася. Вучні на працягу цэлага дня замянялі ўвесь педсклад школы. Праўда, настаўнікі вучнямі не былі. Але надзеі не губляем. А пачалося ўсё так.

Самакіраванне ўсё думала, як паарыгінальней адсвяткаваць Дзень настаўніка. І прыдумала: хай настаўнікі будуць у гэты дзень адпачывць, а мы, вучні, папрацуем на занятках за іх. Як кажуць, і нашым, і вашым добра. Сярод шкаляроў выбралі дырэктара, завучаў, псіхолага і размеркавалі ўсіх настаўнікаў. Кожны вучань падрыхтаваўся да сваіх урокаў, "адміністрацыя" вывучыла свае абавязкі, напісала планы работы і прыглядзела сабе кабінеты.

На жаль, выкананне ролі настаўнікаў зусім не вызваляла ад выканання хатняга задання. Таму ў хуткім часе ўсім прыйшлося вярнуцца да завучвання тэарэмаў і правілаў.

**Алеся БЯЛЕНІК,**
**газэта "Імпульс"**

**гімназія**

## Слабо пацалавацца з жабай?

**Напрыканцы лістапада хімікі-біёлагі 8-10-х класаў школы-гімназіі №30 сабраліся на экалагіныя чытанні з мэтай атрымання практычных ведаў па амфібіям.**

На гэтую сустрэчу быў запрошаны Віктар Бахараў, кандыдат біялагічных навук, дацэнт кафедры заалогіі і батанікі Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта.

Пытанні, што задавалі ўдзельнікам, шакавалі:

-Чаму Вы не жадаеце быць жабай?

-Калі бы Вы былі Іванам-царэвічам, Вы бы пацалавалі жабу?...

Пасля гэтага пачалося вызначэнне амфібіяў па галасах (пры дапамозе запісу, вядома). Трэба было асацыяваць гэтыя галасішкі з гукамі чалавека (стогн, крык) ці з прадметамі.

А на пасашок паказалі датскі фільм пра жабаў. Бр-р...

## "Пяцёркі" за правы чалавека

**"Мае правы – твае правы" пад такой назвай у школе-гімназіі №30 у рамках праваога тыдня праходзіў інтэрактыўны занятак. Удзел у ім прымалі вучні адзінаццатых класаў, па шесць чалавек з кожнага. Узнагарода – "5" па "Агульнай гісторыі" і па "Чалавек і грамадства".**

Удзельнікі на турыстычным караблі ляцелі на планету Фанфарыя, але з-за паломкі вымушаныя былі спыніцца на планеце Мобіюс. Сувязі з Зямлёй няма, а маяк-выратавальнік знаходзіцца на супрацьлеглым баку планеты, ісці да яго некалькі месяцаў. Ёсць вада, ёсць кісларод, ёсць ежа і медычныя сродкі дапамогі. Мэта - дайсці як мага хутчэй да маяка-выратавання, пры гэтым выконваць правы чалавека, асобы.

*-"Матэматыкі" (клас з матэматычным ухілам) адразу палічылі, што калі выконваць правы чалавека, то дойдуць яны ў два разы пазней",* - распавядае Наталля Іванаўна Зыранава, настаўніца Сусветнай мастацкай культуры. - *"Культуролагі" былі звышуманны, галоўнае для іх было права асобы, яны не разумелі як можна не дазволіць чалавеку спяваць, калі ён гэтага жадае. "Замежнікі" паказалі высокі ўзровень культуры дыскусіі.*

У выніку да фінішу дайшлі ўсе. Хто раней, а хто пазней, галоўнае было разуменне таго, што самая вялікая каштоўнасць на Зямлі - гэта ЧАЛАВЕК.

**Вольга АПАЛАЙКА**




*Ім належыць адстойваць свае правы ў XXI стагоддзі*

*Паміж намі, школамі...*

## Скарпіён у школе

**19 СШ №** **У снежні выйшаў чацьвёрты нумар газэты “Скарпіён”, што выдаецца ў школе-ліцэі №19.**

Сама газэта з’явілася яшчэ ў траўні 1999 года. Чаму назвалі “Скарпіён”? Як тлумачаць выдаўцы, то скарпіён даўно лічыцца сімвалам самаедства і самакрытычнасці. Скарпіён не дае магчымасці расслабіцца, прымушае развівацца і ўдасканальвацца.

У газэце вы можаце знайсці навіны школы, даведацца пра пазашкольнае жыццё настаўнікаў, зможаце паўдзельнічаць у конкурсе “Вучнёўскія байкі” і атрымаць падарункі

**Святлана МАЗЕЕВА**

## Першая ракетка

**29 СШ №** Сямікласнік СШ№29 Дзіма Лапін - лепшы настольны тэнісіст у Беларусі. Тытул чэмпіёна краіны ў адзіночным разрадзе ён прывез з Магілеву, дзе адбывалася першынства рэспублікі сярод дзіцяча-юнацкіх спартовых школаў па настольным тэнісе.

**Віктар АХРЫМЧУК**

## А куды пісаць?

**32 СШ №** У СШ№32 унітазы б’юцца,як талеркі. З пачатку навучальнага году было пабіта каля пяці ўнітазаў. І гэта невыпадкова: у прыбіральнях кожны перапынак паляць каля сарака чалавек. сярод гэтых людзей, безумоўна знойдзецца які-небудзь злачынца, што здолеее падняць руку ці нагу на школьную ўласнасць.

**Алесь ПАРТЫЗАН**

## Нашчадак Архімеда

**33 СШ №** "Дайце мне кропку апоры і я перавярну Зямлю", - казаў Архімед. - "Дайце мне тэлефонную слухаўку і я перавярну школу", - сказаў спадар Ікс. І, трэба прызнаць яго талент, у нейкай ступені ў яго гэта атрымалася.

Аднойчы зранку дырэкцыя СШ №33 пачула вестку пра міну. Пасля часовай панікі педагогі выклікалі дапамогу. Прыехаўшыя на SOS сапёры адпаілі ўлады гарбатай з рамонак і патлумачылі, што навучыць школу лётаць практычна немагчыма.

Цікава даведацца, ці свой вучань датэрмінова адсвяткаваў 1 красавіка, ці ініцыятыву праявіў нехта іншы.

**Валерыя ЦЫГАНКОВА**

# Даведаліся, чым кормяць

**9 СШ №** **Супер-9” - гэта не новы атракцыён. Гэта - шэсць старонак вучнёўскай газэты СШ№9, якая з’явілася на свет у кастрычніку гэтага года.**

Хіт газэты - рэцэпт школьных катлетаў ад загадчыцы сталовай: на 100 порцыяў - 3 кг 700 г мяса, 900 г хлеба, 600 г цыбулі, 500 г сухароў і 300 г алею. Ну як, у жываце не булькае?




Рэдагуюць бюлетэнь Аксана Шуміла і Валерыя Цыганкова, навучэнкі школы.

**Ул.інф.**

# Што не рожа - то Сярожа!

**Рэдкалегія “Супер-9” правяла сацыялагічнае даследванне сярод вучняў СШ№9 на самае папулярнае імя.**

Аказалася, што самае распаўсюджанае імя сярод дзяўчат - Ганна. Іх у 4-11 класах ажно 97. Папулярныя таксама Вольгі (69), Кацярыны і Юліі (іх па 55), Таццяны (48) і Натальлі (45). Часта сустракаюцца Алены (40), Ірыны (32), Вікторыі (26) і Дашы (19).

Сярод хлопцаў пераважаюць Аляксандры (90), Зміцеры (81), Сяржукі (65), Андрэі (65), Паўлы (43), Аляксеі (39).

Хапае і рэдкіх імёнаў. У школе вучацца Стэла, Ясенія, Алія, Жанэт, Віталіна, Эліна, Эльжбета, Сабіна і дзьве Сюзаны. Нячаста сустракаюцца Жана, Таісія, Ала і Ніна. Арыгінальныя мужчынскія імёны - Данііл, Даніслаў, Руслан, Арсеній. Мала Грыгорыяў, Сцяпанаў і Вячаславаў. Асаблівы каларыт у імянную гаму ўносяць імёны грузінскіх навучэнцаў - Зосія, Мушэг.

**Валера ЦЫГАНКОВА, “Супер-9”**

# Вітаўт здрады не прабачыць

**15 кастрычніка на беразе Нёмана, ля Каложскай царквы самыя маленькія вучні дзевятай школы - “маленькія грамадзяне” - прысягалі на вернасць сваёй Радзіме. Падчас тэатралізаванага свята малыя абяцалі князю Вітаўту Вялікаму шанаваць сваіх бацькоў, свой горад, вучыцца на карысць Бацькаўшчыны.**

“Маленькія грамадзяне” - дзіцячае аб’яднанне, якому ўжо 11 гадоў. Роўна столькі, колькі тым, хто стаў сябрамі гэтага аб’яднання сёлета. Грамадзяне хоць і маленькія, а карысных справаў ужо паспелі нарабіць. Збіралі сродкі на рэстаўрацыю Каложы, удзельнічалі ў экалагічным дэсанце, дапамагалі інвалідам і малаямаёмасным, складалі альманахі, выпускалі плакаты і рабілі персанальныя выставы.

Самыя першыя з “маленькіх грамадзян” ужо скончылі школу. Хутка некаторыя з іх ўжо пачнуць рыхтаваць сваіх дзетак прыняць ганаровую прысягу.

**Паводле “Супер-9”**

## Пад прыцэлам Максіма



З трэцяга па шостае кастрычніка ў нашым горадзе праходзілі абласныя спаборніцтвы па кулявой стральбе.

Вучань 10 “Б” СШ№9 Максім Варнель заняў першае месца па хуткаснай стральбе, два другіх і трэцяе месцы па стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі.

Галоўнае - не сустрэць яго ўвечары.

**Аксана ШУМІЛА, “Супер-9”**

## Балонікі пагалілі

7 снежня ў СШ№9 праводзіўся Клуб Вясёлых і Дасціпных паміж сямікласнікамі на ангельскай мове. На жаль, узровень ведаў English не заўсёды дазваляў гледачам разумець тонкі ангельскі гумар. Аднак адзінагалосна самым вясёлым конкурсам быў прызнаны "пакуты паветранага шарыка". Сутнасць яго была ў тым, што балонік намыльвалі пенай, і канкурсанты павінны былі "пагаліць" яго такім чынам, каб той не лопнуў.

Пераможцы і ўдзельнікі атрымалі кніжкі, альбомы і сшыткі.

**Валерыя ЦЫГАНКОВА**

# Дыягназ: графіці

**У адзін з апошніх восеньскіх вечароў нашаму карэспандэнту выпала сустрэцца з перапэцканымі фарбай хлопцамі. Як высветлілася пазней, яны аказаліся тымі самымі асобамі, якія ўпрыгожваюць сцены нашага гораду рознакаляровымі надпісамі і малюнкамі. Прапануем вашай увазе іх расповяд пра творчасць графітчыкаў.**




*Першае Гарадзенскае графіці*

### З гісторыі з'яўлення Графіці

Гэты від мастацтва вядомы яшчэ са старажытных часоў у Еўропе. Да нас, у Гародню, ён прыйшоў прыкладна паўтары гады назад і стаў распаўсюджаным накірункам хіп-хоп культуры сярод моладзі. Невядома ці праўда, ці плётка, але кажуць, што першае графіці з'явілася каля ліцэю №1 (там намаляванае слова "Graph").

### Дзе вучацца Графіці

Была тусоўка рэпераў, якая падумала: "А чаму бы не паспрабаваць?" і паспрабавала...Здаецца атрымалася, мы так думаем. А што наконт адукацыі – гэта цяжкае пытанне. Графіці – гэта маляванне на сценах. Калі ты проста ўмееш маляваць, то зробіш гэта і на сцяне, незалежна ад таго ці маеш ты пасведчанне аб сканчэнні нейкай школы.

### Пачынаем маляваць

Спачатку кожны сам малюе ў нейкіх сшытках у вольны час. Пасля з'яўляецца нешта, што падабаецца ўсім і мы гэта малюем. Тое, што намалявана на паперы называецца skech.

Трэба яшчэ выбраць месца. Мы ходзім і выбіраем сцены, на якіх можна маляваць, каб не замазалі. Калі больш за 20% верагоднасці замалявання – мы не малюем. І яшчэ глядзім, каб побач не было прадстаўнікоў праваахоўчых органаў. Выбраўшы сцену, бярэм балоны (рознага колеру), дамаўляемся пра сустрэчу і малюем.

### Graff тусоўкі

У нас ёсць свая тусоўка, у якой мы малюем. Мы адныя з першых пачалі маляваць у Гародні. Кожная тусоўка графітчыкаў выбірае сабе назву і кожны з сябраў гуртка таксама мае сваё імя. Напрыклад, мы называемся "Bombing team" (Выбуховая каманда), а скарочана BT. Нашыя імёны Slon і Kich плюс яшчэ адзін хлопец. Калі каманда малюе, дык ставіцца подпіс, напрыклад BT Slon, Kich і інш.

У Гародні існуюць яшчэ дзьве каманды: ILLC (Ilusian control) і MF клан (Mother Faker clan), акрамя іх шмат "навічкоў". Ёсць у нас і свой "прадвігала" і "прадстаўляла" – зрабіў нашую старонку ў сетцы Internet.

У нас увесну планаваўся конкурс, але яго арганізатар знік разам з грашыма. Мы не замкнутае кола, тусуемся разам з DJ і музыкантамі, а канфліктуем заўсёды з панкамі.

### Чым малюем

Фарбу мы набываем. Балон фарбы (простай) каштуе прыкладна $2, а неонавая фарба - $4. На 1м²- 1 балон. Лічыце самі: ідзе сама меней чатыры колеры. Мы зарабляем грошы самі, падпрацоўваем там-сям і не бярэм грошы ў бацькоў.

### Адносіны з уладай

У Польшчы, напрыклад, Графіці дазволена, а ў нас – не. Ёсць нейкі артыкул у адміністратыўным кодэксе, які не дазваляе размалёўваць будынкі без спецыяльнага дазволу. MF аднойчы папаліліся і плацілі прыкладна 34 млн. старых рублёў.

А нам гэта ў прынцыпе падабаецца. Гэта ў пэўным сэнсе экстрым, гэта крута. Першы раз калі малявалі – перапалохаліся, перапэцкаліся, баяліся кожнага прахожага, а зараз ужо адаптаваліся.

### Графіці - гэта стыль жыцця

Нам шкада гэтых хлопчыкаў, што ходзяць у вузкіх джынсах, у кажухах – "круты" – а на самой справе проста хоча казацца дарослым. Графіці выхоўвае самастойнасць і смеласць. Робіць асобу вольнай ад розных грамадскіх забабонаў.

*Графіці вы можаце пабачыць каля ГрДзУ (галоўны корпус), ліцэя №1, альбо на сабачніку (мікраараён Фарты)*

**Занатавала Вольга ДЗЕРГАЧОВА**



*Гэтую сцяну ля ліцэя №1 акупаваў "MF clan"*

# Астрапрагноз на III чвэрць для настаўнікаў

### ФІЛОЛАГІ



Філолагам, ды і ўсім іншым настаўнікам, безумоўна шанцуе! Зоркі з упэўненасцю сцвярджаюць, што хутка Вы атрымаеце грошы, многа грошаў. Але папярэджваюць: як бы ад радасці Вы не забылі алфавіт, правапіс ды і ўсе астатняе. Гэта адбудзецца ў першыя дні Новага Году. А потым Вас запросяць у госці, потым Вы іх. Наогул, увесь тыдзень будзеце знаходзіцца ў незвычайным віхоры свят і застолляў. Але… прыйдуць школьныя будні і ўсё папсуюць. Так кажуць зоркі.

### МАТЭМАТЫКІ



Няшчасным, загружаным формуламі і лічбамі матэматыкам нарэшце пашанцуе: іх асабістае жыццё ўладкуецца найлепшым чынам. Перад вашымі вокнамі будуць спяваць серэнады, вам будуць дарыць кветкі і прызнавацца у каханні. Усе гэта вам ускружыць галаву. І тады вашыя вучні горш за усіх будуць ведаць новы матэрыял, спішуць усе кантрольныя, не будуць дзяжурыць у школе, створаць поўны гвалт у сталоўцы. Таму дыхайце раўней, матэматыкі!

### ГІСТОРЫКІ



Неспадзяванымі навінамі парадуюць зоркі гісторыкаў: у бліжэйшы час вынайдуць машыну часу. Вы самі зможаце ўбачыць мамантаў (ды і вучням паказаць), дыназаўраў, вядомых дзеячоў, будзеце прысутнічаць пры гістарычных падзеях асабіста і кантраляваць сітуацыю. Але доўга гэтай цацкай вы забаўляцца не будзеце, бо можаце забыць пра свой настаўніцкі абавязак і захочаце змяніць гісторыю, а можа нават застацца ў XVIII стагоддзі пры французскім каралеўскім двары. Чаго захацелі!

### ХІМІКІ



Хімікам зоркі раяць загадзя не смяяцца над фізікамі, каб самім потым не пусціць слязу. Раптам кіслата на руку капне, а калі рошчына (шчолач) на нагу, што тады? Раім як надалей трымацца ад шкляных прадметаў, вы ж пасля свята, застолля… Яшчэ што разаб'ецца.

Дарэчы, а ў вас ёсць пясок, кашма, вогнетушыцель? Так, на ўсялякі пажарны выпадак. Бо менавіта гэты пажарны выпадак можа адбыцца.

### ГЕОГРАФЫ



А што робіцца у географаў?! Зоркі бачаць, як дрыжаць рукі з указкай у гэтых настаўнікаў каля карты Свету. Гэта ж трэба, вучні сказалі, што Зямля - квадрат, ды пусты ў сярэдзіне, замест Сонца на небе Марс, а спадарожніка ў Зямлі няма і ў бліжэйшым будучым не прадбачыцца. Прыйдзецца вам, дарагія географы, вярнуць Месяц на месца, ды і ўсе астаняе, а то зоркі разззлуюцца і будзе вам гараскоп ярчэй гэтага!

### БІЁЛАГІ



Біелагам зоркі абяцаюць невялікія выдаткі: не паспеюць і вокам міргнуць, як скрадуць чучала птушкі, некалькі гаршочкаў з кветкамі, два мікраскопа. І яшчэ, на школьнай дыскатэцы вы будзеце галоўнымі дзяжурнымі. Не пашанцавала, што і гаварыць… Але вы не губляйцеся, апраніце абцас нізенькі ды і гуляйце разам з вучнямі.

### ФІЗРУКІ



Настаўнікам фізкультуры зоркі прадказваюць невялічкія непрыемнасці: Люцікаў пры скачку праз "казла" зламае нагу, Шпількіна пры скачках на скакалцы вывіхне руку, а многія атлеты пасля доўгіх дэстанцый страцяць прытомнасць. А так, здаецца, усё будзе добра!

### ФІЗІКІ



Вось каму не пашанцавала, дык не пашанцавала - гэта фізікам. Раім: святло не уключаць - 220 В, да прыбораў не падыходзіць - папсуюцца, ні гальванометрамі, ні вольтметрамі нічога не мерайце - атрымаеце завышаную ці заніжаную інфармацыю. Наогул, закрыйце лабаранцкую на ключ і завітайце ў медпункт.

### АДМІНІСТРАЦЫЯ

Для адміністрацыі зоркі таксама не вельмі спрыяюць. Іх, як заўсёды чакаюць вялікія праблемы на рабоце. Яны зноў забегаюць па калідорах з такім заклапочаным выглядам, што забудуць нават, як іх завуць. Але і для іх прыйдзе цудоўны момант: хутка канікулы!!!

**Зоркі нашапталі**
**Алесе БЯЛЕНІК**

**Шаноўныя настаўнікі! Віншуем Вас з Калядамі і Новым Годам! Жадаем, каб зоркі заўжды спрыялі Вашай нялёгкай працы.**

*Рэспубліканскі конкурс экажурналістыкі сярод школьнікаў*

# Святло тваёй душы

Калі ты ўсведамляеш сябе часткай беларускай краіны, калі ты маеш жаданне адлюстраваць навакольнае асяроддзе ў сваіх замалёўках, калі ты спрабаваў разважаць пра лёс родных краявідаў, пра тое, як чалавек і месца прыстасоўваюцца адзін да аднаго - далучайся да нашага конкурсу!

Даслаць заяўку, прыкласці які-небудзь твор, які адпавядае тэматыцы экалагічнай журналістыкі (замалёўка, роздум, верш і г.д.) ды напісаць колькі словаў пра сябе (імя, прозвішча, адрэса, школа, дзе вучышся, кантактны тэлефон).

Пераможцы будуць запрошаныя на свята Дня Зямлі, якое адбудзецца ў красавіку 2001 года ў Менску. Таксама іх чакаюць каштоўныя прызы і падарункі. Лепшыя творы будуць надрукаваныя ў часопісе "Белавежская пушча".

**Конкурсныя працы дасылаць па адрасе:**
***220023, Менск, вул.Макаёнка, 8, РЭЦВ, "Дзень Зямлі"* да 10 лютага 2001 года**
***Тэлефон для даведак (017) 227 79 54***

## *Internet*




**Інтэрнэт апошнім часам становіцца галаўным болем усіх школьных настаўнікаў. У павуцінні любы школяр, які мае доступ да сеціва, можна знайсці ледзьве не ўсю навучальную праграму - ад рэфератаў да экзаменацый-ных білетаў.**

**com.to/belref** - першы беларускі збор рэфератаў, курсавых і дыпломных працаў самага разнастайнага тэмату. Там сама можна знайсці больш за сотню сачыненняў па беларускай літаратуры і гісторыі.

**bi.org.by** - Беларусь знутры - для тых, хто цікавіцца роднай гісторыяй і беларускімі краявідамі. Утрымлівае фатаздымкі найпрыгажэйшых мясцін нашай краіны, гістарычных помнікаў, а таксама кароткія каментары да іх.

**dt.home.by** - Дзед Талаш - першы беларускі партал і каталог. На гэтым сайце ёсць практычна ўсе спасылкі на беларускія Інтэрнэт-рэсурсы - навіны, перыядычныя выданні, літаратуру, музыку, спорт, гумар, чаты. Раім нашым чытачам зазірнуць у "навуку і адукацыю" - там ёсць звесткі пра беларускія ВНУ.

**Блізкая гісторыя**
**Конкурс па гісторыі для школьнікаў**

# Мой радавод. Лёс сям'і ў ХХ стагоддзі

*Грамадскае аб'яднанне "Дыярыуш" пры ўдзеле Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

**Кім быў твой прадзед? Як і дзе прайшло дзяцінства тваёй бабулі? Чаму твая сям'я жыве ў гэтых мясцінах і дзе вашыя продкі жылі раней? Ці ведаеш ты свой радавод? Калі табе цікавыя гэтыя пытанні, значыць, гэты конкурс для цябе.**

У конкурсе могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных установаў (пачынаючы з сёмага класа): школ, ліцэяў, гімназіяў, а таксама навучэнцы каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная: сачыненне, эсэ, інтэрвію, калаж з фотаздымкаў, фільм, аўдыёзапіс і іншае. Калі праца нятэкставая (аўдыё-, відэа-, фотаздымкі), да яе павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання альбо ўтрымлівае каментар да крыніцаў.

Працу можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна ці з дапамогай настаўніка, бібліятэкара, выхавальніка ці кагосьці з тваёй сям'і. Вітаецца творчасць: не перапісвай кніг і чужых артыкулаў. Калі будзеш карыстацца якімі-небудзь матэрыяламі ці тэкстамі (працамі па гісторыі, даведнікамі, прэсай), абавязкова зрабі спасылку на крыніцу. Калі маеш арыгінальныя старыя ці архіўныя дакументы, абавязкова пазнач іх паходжанне і назву. Аб'ём працы можа быць любы.

Працу пажадана пісаць на беларускай мове. Тэксты крыніцаў можна падаваць на мове арыгіналу.

Не мае значэння, як аформлена праца - надрукавана на друкарцы, зроблена на кампутары альбо напісана ад рукі. Галоўнае, каб яна была выканана ахайна і разборліва. Да працы абавязкова павінна быць далучана анкета ўдзельніка з прозвішчам, імем удзельніка, яго каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозвішчам, імем і каардынатамі куратара (пры яго наяўнасці).

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 8 ліпеня 2001 года. Усе ўдзельнікі атрымаюць памятныя падарункі і дыпломы, пераможцы - каштоўныя ўзнагароды.

Усю патрэбную інфармацыю, парады і брашуру, у якой падрабязна выкладзены ўмовы конкурсу, можна атрымаць, калі звязацца з сакратаркай конкурсу **Ірынай Коваль** па тэлефоне **(8-017) 227-51-09** альбо па электроннай пошце **iryna@dyjaryush.org.by**

**Працу трэба даслаць да 1 мая 2001 года (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) па адрасе: "Блізкая гісторыя", а/с 128, 220064, Менск.**

*стракаты кут*

# Абвесткі



Віншую з Новым Годам маіх лепшых сябровак **Бажэну, Ганну і Марыну.**

**Алеся Бяленік**

**Паўлёнак!**
Віншуем са Святамі! Жадаем, каб у тваім жыцці было меньш памылак, чым у нашых тэкстах.

Віншую з Днём народзінаў і з Новым Годам маю ўлюбёную настаўніцу **Антаніну Фёдараўну Арцюх.** Жадаю здароўя, творчых поспехаў і доў іх гадоў жыцця.

**Алеся Бяленік**

**Юра Тарасевіч!**
Дзякуй, ты нам вельмі дапамог.
Вясёлых святаў!

**Сяржук**, было б някепска схадзіць разам на каву.

**Вольга з СШ№29**

Рэдакцыя "ЛІЦЭЙ плюс" віншуе ўсіх навучэнцаў, выкладнікаў і выпускнікоў Школы маладога журналіста з Калядымі Святамі. Спадзяемся на плённае супрацоўніцтва ў новым тысячагоддзі.

**Ліцэісты, гімназісты і шкаляры Гарадзеншчыны! Ужо даўно прыспеў час выдаваць сваю газэту. Скажам настаўнікам, што мы пра іх думаем. Лістуйце, мы дапаможам.**
**230009, а/с 30, Гародня**
**yunela@mail.ru**

# Як зарабіць на вадзе і сене




**Вам не стае грошаў на дыскатэкі? Вы не ведаеце, дзе ўзяць грошы, каб пайсці на канцэрт улюбёнай зоркі? Больш-меньш прыстойныя джынсы каштуюць 20 даляраў, а ў Вас у наяўнасці толькі пяць? Дзе ўзяць грошы? Дзе ўзяць грошы? Дзе ўзяць грошы? Мы прапануем Вам некалькі цікавых спосабаў, якімі карыстаюцца іншыя.**

### Спосаб 1:

Стас, 15 гадоў, мые аўтамабілі пад гатэлем "Турыст".

- Я займаюся гэтай справай ужо каля шасці-сямі гадоў, - распавядае Стас. – У дзень выходзіць, прыкладна, дзесяць даляраў: ад аднаго да трох баксаў за машыну, у залежнасці ад таго, каму мыеш. Звычайна, добра плоцяць замежнікі: расейцы, палякі... Нашы – бамжы, больш за 1$ ніколі не даюць. Куды ідуць грошы? На гульнёвыя аўтаматы.

### Спосаб 2:

Улетку шасцікласнік Жэня складаў стогі сена ў калгасе. Аднаразовая акцыя, але даволі прыбытковая.

- У вёсцы ўсё роўна летам сядзіш, то бабулі дапамажы, то суседзям. А за гэта грошаў – кукіш. А так за складванне сена калгас плаціць 45 тысячаў (па старому млн.) у месяц. Адзіная праблема – дагэтуль яшчэ грошы аддаць не могуць.

**Віктар АХРЫМЧУК**

**Нагадваем, што "ЛІЦЭЙ плюс" працягвае конкурс на лепшы спосаб зараблення грошай. Лістуйце нам, пераможца атрымае падарунак!**

# Жарт-кактэль

❀❀❀

На занятку па геаграфіі настаўніца спрабуе патлумачыць вучню, як знайсці частку свету па компасе.

- Вось бачыш стрэлку? Направа - гэта ўсход, налева - захад, наперадзе - поўнач. А што ў цябе ззаду?

Хлопец знерухомеў, пачырванеў і закрычаў:

- Я ж казаў маці, што вы ўсё роўна ўбачыце дзірку на маіх нагавіцах!

❀❀❀

Настаўніца:

- Прывядзіце прыклад ужывання выразу "на шчасце".

Вучаніца:

- Рабаўнікі падсцерагі падарожніка і забілі яго.

- ...?

- На шчасце, ён забыў грошы ў хаце.



❀❀❀

- Проста неверагодна, што адзін чалавек можа зрабіць столькі памылак! - кажа настаўніца Міколку.

- Чаму адзін? Разам з татай, - з гонарам адказвае Мікола недасведчанай настаўніцы.

**Падпіска на "ЛІЦЭЙ плюс"**

Я,________________________________(Імя,прозвішча) ______(клас)________ (школа), прашу дасылаць мне і маім сябрам кожны нумар бюлетэню "ЛІЦЭЙ плюс" колькасцю_______ асобнікаў.
Адрэса:________________________________
Хатні тэлефон:__________________________
Іншыя каардынаты:_______________________

Інфармацыйна-культурны бюлетэнь "ЛІЦЭЙ плюс" з'яўляецца неперыядычным міжшкольным выданнем. Друкуецца на беларускай мове. Наклад 299 асобнікаў. Пры передруку рабіць спасылкі на "ЛІЦЭЙ плюс".

**Рэдкалегія:** Юлія Дарашкевіч, Юля Коцкая
**Малюнкі:** Павал Эльяшэвіч
**Вёрстка:** Алена Каваленя

**Нашыя каардынаты:**
а/с 30, Гародня, 230009
e-mail:yunela@mail.ru

Памнажэнне - ГА "Ратуша"